# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 15 (946) ГОД XIX БЕЛАСТОК 15 КРАСАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.




З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР

**ДУБЯЖЫНСКІЯ ХЛОПЦЫ**

Актэт з Дубяжына Бельскага павету (П. Ігнацюк, А. Раманюк, А. Раманюк, М. Раманюк, С. Супронюк, Я. Томчук, Я. Томчук, У. Шаратуха), які на сёлетнім цэнтральным аглядзе БГКТ заняў у катэгорыі фальклорнай песні ў групе калектываў першае месца.

Фота А. Карпюка.

# НА ПАГОРКУ пад ЛЯСКОМ

З якога б боку не пад'язджаць да **Зуброў**, што ў Беластоцкім павеце, адусюль відаць попельнага колеру школьны будынак з чырвонай дахоўкай. Ён маляўніча ўсеўся на пагорку, пад ляском, і як быццам пануе над вёскай, што раскінулася ніжэй, у далінцы. І хоць палажэнне школы, вядома, справа выпадковая, але ў Зубрах яно з'яўляецца многазначным сімвалам. Бо колькі ў пасляваенныя гады вывела яна моладзі ў шырокі свет з-пад тутэйшых саламяных стрэхаў! Каго толькі няма сярод яе выпускнікоў!

Школу пад ляском закончылі агрaном **Ірэна Гапунік**, славістка **Ірэна Кот**, інжынер **Мікалай Гогель**, лётчык **Валянцін Гегель**, інжынер **Зіна Раманчук**, мастак **Аляксандр Ціўнчык**, палкоўнік Войска Польскага **Леанід Сямёнчык**, інжынер **Дзмітрый Раманчук**, лабарантка **Галіна Ціўнчык**, настаўнікі **Віктар Макарэвіч, Агнешка Макарэвіч, Зіна Усціновіч, Зіна Талуць** і многа іншых. Усіх не пералічыш, а з кожным годам прыбываюць усё новыя і новыя тэхнікі, інжынеры, магістры...

З вокан школы прасціраецца мілы сэрцу краявід: з алешнікаў на луг выскоквае пакручастая стужка рэчкі, а на пагорках зеляняцца кашлатыя хвайнячкі. Недзе за лесам бялее воданапорная вежа, і ў клубах пары адыходзяць у нязведаную далеч цягнікі. І гэта, мабыць, яшчэ больш заахвочвае невялічкую, бо гуртуючую каля шасцідзесяці вучняў і пяць настаўнікаў, школьную сям'ю да саліднай штодзённай працы.

Пані **Зіна Зарэцкая** сама родам з суседніх Мастаўлян. Пасля заканчэння ў 1953 годзе беларускага класа Педагагічнага ліцэя ў Бельску Падляшскім нейкі час працавала ў Рыбаках Беластоцкага павету і вось ужо 18 год вучыць **беларускай мовы ў Зубрах.** Закаханая ў свой прадмет, і гэтая любоў перадаец-

(Працяг на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Я ПРАЦАВАЛА Ў САКРАТАРЫЯЦЕ ГРАМАДЫ

Побач з архіўнымі матэрыяламі пра Грамаду ёсць і жывыя сведкі тых векапомных дзён. Зофія Асаевіч — цяпер Блатон — працавала ў цэнтралі гэтай вялікай арганізацыі ў гарачы 1926 год.

*— Вы, у той час семнаццацігадовая гімназістка, працавалі ў Цэнтральным сакратарыяце Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Вільні. Як гэта сталася? — пытаю ў Зофіі Асаевіч-Блатон, якая зараз пражывае ў Варшаве. — Як выглядала штодзённая работа ў сакратарыяце?*

— 1926 год. Май. Урачысты вечар у Беларускай гімназіі ў Вільні. Вучні сёмага класа здалі „педагагічную матуру" — паводле старой мадэлі навучання. Пасля галасістай „Лявоніхі" адзін з вучоных мужоў, — так называлі мы нашых настаўнікаў, — здаецца, Дварчанін, звярнуўся да мяне: — Можа ты, Асаевічанка, папрацуеш у сакратарыяце Грамады? Прынамсі адно лета, калі пасля захочаш канчаць восьмы клас...

Такім чынам, праз некалькі дзён сустрэў мяне ў сакратарыяце Грамады, сам яе Старшыня, пасол Браніслаў Тарашкевіч. Сакратарыят знаходзіўся на вуліцы Віленскай 12. Былі гэта тры скромныя пакойчыкі — у сярэднім, найбольшым, працавалі мы, г.зн. галоўны сакратар М. Бурсэвіч і Варанька Журэнкава, прыгожая і зграбная дзяўчына, якая закончыла таксама Беларускую гімназію, на некалькі гадоў раней. Увесь пакой быў застаўлены пачкамі ды звязкамі папераў. Гэта былі дэкларацыі і заявы тых, што прасілі прыняць іх у рады сяброў (членаў) Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Праца наша зводзілася да сегрэгацыі, якраз гэтых папераў, паводле паветаў, вёсак і г.д., і выпісвання членскіх білетаў. Працавалі мы нават і ў нядзелі. Штодзень атрымоўвалі па пошце мноства новых дэкларацый і грашовыя пераводы з членскімі складчынамі, пераважна па 1,50 зл., 1,25 зл., 2,20. Па 3 або 5 зл. — траплялся рэдка, а перавод у 10 злотых выклікаў агульнае здзіўленне. Гэтыя пасылкі, хаця такія дробныя, былі надта шматлікія.

Вельмі хутка аказалася, што шмат карэспандэнцыі ды пасылак „губляецца" на пошце. Тады пачалі прыязджаць у сакратарыят людзі з вёсак, каб давезці або адвезці, што трэба, асабіста. Часамі, некаторыя з іх першы раз у сваім жыцці былі ў Вільні. Аднойчы з'явіўся ў нас старэнькі дзядок з двума маладымі дзяцюкамі. Дзед перахрысціўся на пішучую машынку, якая стаяла высока, ў кутку, і абвясціў, што перад смерцю захацеў ўбачыць самую Грамаду. Ён ветліва, мо каб схаваць расчараванне (нават сакратара не застаў!), дадаў: — Відаць, вы, дзяўчаткі, руплівыя, што вас тут пасадзілі: напішыце на маім білеце-пашпарце дакладна ды вялікімі літарамі, хто я!..

Нярэдка, разам з дэкларацыямі, лю-

(Працяг на стар. 4)

# ПРАЦА і толькі салідная ПРАЦА...

У нядзелю 24 сакавіка г.г. адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ.

З дакладам на тэму **„Трыццаць год Польскай Народнай Рэспублікі"** выступіў старшыня ГП БГКТ **Мікалай Самоцік.** Дакладчык прадставіў у нарысе рэвалюцыйныя традыцыі і гісторыю станаўлення народнай улады на Беласточчыне.

— Трэба было адбудаваць знішчаную гаспадарку, даць людзям хлеб і жыллё, адбіваць атакі цёмных сіл і кшталтаваць быт дзяржавы на новых асновах. Рэвалюцыйныя рашэнні народнай улады аб нацыяналізацыі прамысловасці і аграрнай рэформе рэакцыйнае падполле сустрэла стрэламі з-за вугла. Гінулі ад іх першыя змагары за новыя грамадскія адносіны. Сярод іх загінула многа беларусаў, якія супольна з палякамі змагаліся і будавалі новы лад.

Затым дакладчык прадставіў дасягненні нашага краю за 30 год народнай улады ў грамадскім, гаспадарчым і культурным жыцці. У гэтую справу ўнеслі таксама свой вялікі ўклад беларусы, пражываючыя ў Польшчы.

— Немагчыма было б сёння знайсці ў краіне большае прадпрыемства, у якім не працавалі б беларусы, — заўважыў М. Самоцік. — Знайсці нас не цяжка ў шахтах Шлёнска, суднаверфях Узбярэжжа, у дзяржаўных сельскіх гаспадарках, Новай Гуце, Пулавах, на заводзе Цагельскага ў Познані і на фабрыцы легкавых машын ў Варшаве. Словам, ва ўсіх галінах польскай нацыянальнай гаспадаркі беларусы дакументуюць сваю прысутнасць саліднай працай.

Гаворачы аб гаспадарчых і культурных дасягненнях Беласточчыны за мінулае 30-годдзе, М. Самоцік заўважыў, што беларусы, якія жывуць ва ўсходняй частцы беластоцкага рэгіёна, дабіліся таксама высокага ўзроўню жыцця. Цяпер кожны чацверты жыхар вучыц-

(Працяг на стар. 2)



*Даклад чытае старшыня ГП БГКТ М. Самоцік.*

*Удзельнікі пленума XXX-годдзя.*



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



## Новыя вершы

* ✲ *

Самыя балючыя раны ў дзяцінстве
Перастаюць ныць ад пацалункаў маці.
У юнацтве — самі зажываюць да вяселля.
У сталасці — загойваюцца
Ад спагады сяброў, ад чаркі віна.
І толькі пазнейшыя раны
Ніхто і нішто не залечыць,
Апроч зямлі.

* ✲ *

Нікому, як табе,
Столькі не хлусілі.
Калі гаварылі, што ты — прыгожая,
А смяяліся з тваіх чорных, парэпаных рук;
Калі гаварылі, што ты — справядлівая,
Вінавацілі цябе ў паслужніцтве;
Калі гаварылі аб тваёй чуласці,
А знеслаўлялі цябе за жорсткасць;
Калі гаварылі аб тваёй сціпласці,
А ганьбілі цябе за распусту;
Калі кляліся табе не здрадзіць,
А адмаўляліся ад цябе
Раней, як праспявалі тройчы пеўні.
І я хлусіў, калі заракаўся
З табою сустракацца
І на гэтым і тым свеце,
Бо зноў, як блудны сын,
Вяртаюся да цябе, паэзія.

**Максім Танк**

## БГКТ хроніка

■ Беларускі калектыў песні і танца „Белавежа“ з Белавежы атрымоўвае фінансавую падтрымку не толькі ад Беларускага таварыства. На апошняй сесіі павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы, што адбылася 27 сакавіка і дзе разглядаліся, між іншым, фінансавыя справы, радныя прыхіліліся да просьбы гайнаўскага аддзела БГКТ і зацвердзілі 30 тысяч зл. на патрэбы гэтага калектыву. У сесіі прыняў удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

■ 30 сакавіка пісьменнік Сакрат Яновіч правёў аўтарскую сустрэчу ў Бельскім беларускім ліцэі. Зацікаўленне яго літаратурнай творчасцю і творчасцю літаратараў з літаб'яднання „Белавежа“ было вялікае. Аб гэтым сведчыць нават той факт, што навучэнцы ліцэя купілі 50 кніжак Сакрата Яновіча пад загалоўкам „Загоны“ і 40 кніжак „Літаратурнай Беласточчыны“, якая выдадзена ў Мінску і прадстаўляе літаратурныя сілы ў Польшчы, якія пішуць на беларускай мове.

■ У той жа дзень Сакрат Яновіч быў запрошан на аўтарскую сустрэчу ў падставовую школу ў Орлі, а вечарам у арлянскі клуб „Рух“, дзе прысутныя купілі шмат экземпляраў спамянутых дзвюх кніжак.

■ Галоўнае праўленне БГКТ ўдзяляе многа ўвагі папулярызацыі савецкіх фільмаў. У гэтым вялікую дапамогу аказвае Дом савецкай культуры ў Варшаве, які бясплатна пазычае фільмы для ГП БГКТ. А ГП БГКТ сваёй уласнай апаратурай дэманструе іх у беларускім асяроддзі. І трэба сказаць, што на Беласточчыне любяць савецкія фільмы. Старэйшае пакаленне імі проста захапляецца. 4 і 5 красавіка кінаперасоўкай ГП быў паказан савецкі фільм „Гадзіннік спыніўся апоўначы“ жыхарам вёскі Сакі і Зубава на Бельшчыне і жыхарам Мілейчыц у Сямяціцкім павеце.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ з'яўляецца ў нашай беларускай грамадска-культурнай арганізацыі самым вялікім аддзелам. На Гайнаўшчыне найбольш, бо аж 70 гурткоў БГКТ, у якіх налічваецца больш як 2,5 тысячы членаў. Найбольш там таксама школ, у якіх выкладаецца беларуская мова і найбольш падпісчыкаў „Нівы“. У гэтым аддзеле крыху спазнілася справаздачная кампанія. Справаздачныя і справаздачна-выбарныя сходы закончацца ў пачатку другой паловы красавіка. Як правіла, на гэтых сходах членам БГКТ уручаюцца новыя членскія білеты, многія аплачваюць членскія складчыны за 1974 год.

■ Другім і па колькасці гурткоў, і па колькасці членаў, а таксама па колькасці падпісчыкаў „Нівы“ з'яўляецца бельскі аддзел БГКТ. Там ужо закончыліся сходы ў гуртках БГКТ. Былі яны ў асноўным справаздачна-выбарныя. Выбраны праўленні, выбраны старшыні гурткоў. Гэтыя ганаровыя грамадскія функцыі будуць выконваць актыўныя людзі, якія карыстаюцца вялікім аўтарытэтам у сваім асяроддзі. (мх)




(Працяг са стар. 1)

## НА ПАГОРКУ ПАД ЛЯСКОМ

ца дзецям. На ўрокі роднай мовы ходзяць яны ахвотна, і школа не знае выпадку, калі б нейкі бацька адмовіўся пасылаць сваю дачку ці сына на заняткі па беларускай мове. Высока цэняць тут гэты прадмет.

У школе не бывае ніводнае ўрачыстасці, на якой не было б беларускіх вершаў, песень, інсцэнізацый. Пра некаторыя з іх, як напрыклад, **„Бабуля прыехала“** доўга ўспаміналі і ў школе і ў вёсцы. Некалькі год таму назад зуброўскія вучні прымалі ўдзел у конкурсе ведаў па гісторыі Савецкай Беларусі, год таму назад — у конкурсе „Беларуская песня — 72“, цяпер рыхтуюцца да конкурсу „Песня — 74“.

Пані **З. Зарэцкая** не спыняе паглыбляць свае веды і ўдасканальваць метады навучання. Яна ўдзельнічала ў настаўніцкіх курсах у Медзышыне, Бельску Падляшскім, ездзіла ў **Мінск.** І хоць дома мае трох мужчын (мужа і двух сыноў) ды безліч хатняй работы, усё ж знаходзіць час, каб сістэматычна сачыць за педагагічнымі навінкамі. І гэта не толькі для цікаўнасці. Вось ужо некалькі год яна практыкуе **па метаду Селасцена Фрэне** развіццё індывідуальных здольнасцей вучняў. У свабодных творчых тэкстах — нататках, апавяданнях і вершах на зададзеную тэму вучні выказваюцца аб школьным жыцці, сваёй сям'і, сябрах, планах на будучыню. Свае працы аздабліваюць малюнкамі. Сотні вучнёўскіх твораў, што знаходзяцца ў зборах **З. Зарэцкай**, дазваляюць ёй усебакова спазнаць багаты свет перажыванняў, схільнасці і зацікаўленні сваіх вучняў, каб потым адпаведна пакіраваць выхаваннем і навучаннем кожнага з іх. І яшчэ адна важная справа. Такія практыкаванні развіваюць у дзяцей уменне валодаць словам, дакладна выказваць свае думкі, адкрываюць перад імі мастацкія вартасці мовы. Дзеці свядома шукаюць адпаведнай формы выразу для сваёй думкі ці настрою, падбіраюць параўнанні, шукаюць рыфмаў. Для прыкладу прывядзём урывак верша Алі Макарэвіч, які яна напісала яшчэ ў чацвёртым класе на тэму „Першы снег“:

Лес сасновы адзеў сёння
Беленькі кажух.
Памыліліся ўсё ж тут мы —
Гэта снежны пух!

Не забывае **З. Зарэцкая** таксама і пра мясцовы **беларускі фальклор.** Пад яе кіраўніцтвам школьнікі збіраюць і запісваюць песні, казкі, легенды. Вучацца разумець і любіць народнае мастацтва, знаходзіць у ім прыгажосць і водгулле даўно мінуўшых часоў. Як вось хоць бы у гэтай легендзе аб паходжанні вёскі Зубры:

„ Была тут калісьці пушча непраходная, а ў ёй — безліч зуброў. І ніхто не адважыўся заглянуць у гэтыя нетры. І толькі адзін чалавек, што меў харобрае сэрца і светлы пагляд...“

Цяпер не адзін, а дзесяткі і сотні светлых людзей вывела ў свет школа ў **Зубрах**, што маляўніча прысела на пагорку пад лесам.

**Мікалай Гайдук**



*Група настаўніц беларускай мовы з Беласточчыны ў Мінску ў 1958 годзе. Першая справа — З. Зарэцкая.*

(Працяг са стар. 1)

## ПРАЦА І ТОЛЬКІ САЛІДНАЯ ПРАЦА...

ца ў школах рознага тыпу. Цяжка сёння знайсці сям'ю, у якой не было б выпускнікоў вышэйшых або сярэдніх школ.

— Праца і толькі салідная праца — гэта крыніца моцы краю і дабрабыту нашага народу, — сцвердзіў дакладчык, прадстаўляючы задачы нашай арганізацыі ў юбілейным годзе, і выказаў упэўненасць, што ўсе члены БГКТ як аднаго з грамадскіх звенняў Фронту адзінства народа будуць актыўнымі ўдзельнікамі агульнанароднага пачыну ў гонар 30-годдзя Народнай Польшчы.

— Дапаможным сродкам у мабілізацыі грамадства на выкананне заданняў юбілейнага года нашай народнай улады няхай стануць усе формы дзейнасці БГКТ — конкурсы, фэстыны, выступленні калектываў, сустрэчы, даклады, лекцыі, выстаўкі і іншыя. А яны будуць мабілізаваць тады, калі дамо ім адпаведны змест і афармленне, — сцвердзіў у заканчэнні даклада М. Самоцік.

Пасля разгарнулася дыскусія над дакладам і праектам праграмы святкаванняў 30-годдзя ПНР Беларускім грамадска-культурным таварыствам, што раней быў разасланы ўсім членам ГП БГКТ. Даклад і праект праграмы былі адобраны выступаючымі. Побач з гэтым *Я. Зенюк* звярнуў увагу на тое, каб развіваць і ўдасканальваць розныя формы нашай рэгіянальнай нацыянальнай культуры, яна ж уносіць у агульнапольскую культурную скарбніцу свае адметныя каштоўнасці. *А. Баршчэўскі* гаварыў аб патрэбе набліжэння дзейнасці нашага актыву да гурткоў БГКТ. *А. Іванюк* адзначыў неабходнасць шырэйшай папулярызацыі дасягненняў нашай самадзейнасці і арганізацыю выязных канцэртаў, такіх мерапрыемстваў чакаюць вёскі і мястэчкі Беласточчыны. *Ю. Навіцкі* выказаў пажаданне, каб „Ніва“ змяшчала больш матэрыялаў для вучняў старэйшых класаў і заўважыў, што „Беларускі каляндар“ павінен адлюстроўваць жыццё нашага асяроддзя. *Я. Цялушэцкі* падкрэсліў, што наша арганізацыя павінна разгортваць шырэйшую выхаваўчую працу сярод моладзі. *М. Гайдук* гаварыў аб патрэбе ствараць касцюмы для нашых калектываў на аснове колішняй народнай беларускай вопраткі Беласточчыны і неабходнасці дакументаваць на кінастужцы найбольш арыгінальныя і каштоўныя фальклорныя пастаноўкі нашых самадзейнікаў.

Пасля дыскусіі старшыня ГП БГКТ М. Самоцік адказаў на пастаўленыя ў яе ходзе пытанні. Старшыня камісіі прапаноў *Ю. Навіцкі* (у яе склад уваходзілі таксама Г. Тапалянская і А. Мартыновіч) прадставіў сабраным тэкст рашэння, паводле якога ГП БГКТ прымае ў свой абавязак выкананне праграмы святкаванняў 30-годдзя ПНР Беларускім грамадска-культурным таварыствам, распаўсюджанне ў гуртках БГКТ даклада „Трыццаць год Польскай Народнай Рэспублікі“ і тых прапаноў, што былі ўнесены ў часе дыскусіі. Пленум аднагалосна прыняў запрапанаванае Ю. Навіцкім рашэнне.

У заканчэнні пасяджэння М. Самоцік зрабіў справаздачу аб дзейнасці Прэзідыума ГП БГКТ за перыяд ад папярэдняга пленума.

**Ігнат Снарскі**

**Фота Я. Цялушэцкага**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 14.IV.** 8.40 Prog. dnia. 8.45 Bieg po zdrowie. 9.00 ŚWIĄTECZNY TELERANEK. 1[illegible] Piórkiem i węglem. 11.00 Wiosna w Wiedniu. 12.15 Afganistan — film dok. 12.45 Zwyczaje i obrzędy. 13.15 Wielka gra. 14.05 Teatr Lalek — M. Kann — Baśń o zaklętym kaczorze. 15.20 Hokej. Szwecja — Polska (II i III tercja). 17.00 Kwadrans tygodnia. 17.15 Jedna, jedyna, wyśniona. 18.00 Ballada o Fiacie i siedmiu wspaniałych. 18.30 Tele — Echo. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 W samo południe — film fab. ameryk. 21.50 Gwiazdy siedmiu stolic. 22.55 Inf. mag. sport. 23.40 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 15.IV.** 8.25 Progr. dnia. 8.30 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 9.00 Dla dzieci: Dyngusowy zwierzyniec. Disneyland — film. 10.15 Klub Sześciu Kontynentów. 11.00 W starym kinie. 12.25 Dziennik. 12.40 Wiosna w Żelazowej Woli. 13.10 W Dolinie Słońca. 13.25 Teatr Lalek — A. Gruszczyńska-Grzymska — Zaczarowane tykwy. 14.20 Znaki Zodiaku. 15.05 Hokej. Czechosł. — Szwecja. 16.45 Reportaż film. 17.10 Czarna tarcza rodu Falworthów — film fab. ameryk. 18.45 Samochód dla najlepszego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Giraudoux — Ondyna. 22.05 Sport. 22.10 Godzina Julii Andrews — progr. rozr. ameryk.

**Wtorek 16.IV.** 9.00 TELEFERIE. 10.25 Siedemnaście mgnień wiosny — film radz. 16.15 Progr. dnia. 16.20 Ex libris. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Disneyland — film. 17.30 W bliskim planie. 17.55 Sylwetki X Muzy — Lidia Korsakówna. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Eureka. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedemnaście mgnień wiosny — film radz. 21.30 Świat i Polska. 22.15 Hokej. Polska — ZSSR. 23.00 Dziennik.

**Środa 17.IV.** 9.00 TELEFERIE. 10.25 Dama z Szangaju — film fab. węg. 12.45 Tech. Rol.: Fizyka. 13.25 Uprawa roślin. 14.40 Politechnika. Kurs przygot. Fizyka. 15.45 NURT — Psychologia. 16.15 Progr. dnia. 16.20 Inf., Tow., Prop. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Disneyland — film. 17.30 Los. Mał. Lotka. 17.40 Znaki czasu. 18.15 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Łuk tęczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Piłka nożna. Belgia — Polska. 21.50 Przewartościowania. 22.15 Wielcy ludzie a muzyka — Stefan Żeromski. 22.45 Dziennik. 23.00 Hokej. Fin. — Polska.

**Czwartek 18.IV.** 6.30 Techn. Rol.: Fizyka. 7.00 Uprawa roślin. 7.50 Telefon 110. 9.15 Łuk tęczy. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Historia — Po zwycięstwo i sławę. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Język polski Bolesław Prus. 13.45 Techn. Roln.: Zoologia. 14.30 Mechanizacja rolnictwa. 15.05 Matematyka w szkole. 15.55 Progr. dnia. 16.00 Hokej. ZSRR — Czechosł. 18.15 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Progr. publ. 19.00 TEST — Reklama. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Telefon 110. 21.45 Sport. 21.55 Bliski Wschód. 22.25 Kabała. 23.00 Dziennik. 23.15 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 19.IV.** 6.30 Techn. Roln.: Zoologia. 7.00 Mechanizacja rolnictwa. 10.00 Ryzykanci — film dok. ameryk. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — Telefon X zawsze odpowiada. 11.35 Chochłamskie malowanki — film dok. radz. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne — W okresie bezpośredniego zagrożenia. 12.45 Techn. Roln.: Język polski. 13.25 Chemia. 13.55 Politechnika. Kurs przygot. Matematyka. 15.00 NURT — Filozofia. 15.45 Progr. dnia. 16.00 Hokej. NRD — Polska. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Laboratorium 74. 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Ryzykanci — film dok. ameryk. 20.45 Panorama. 21.25 Sport. 21.30 Teatr. O. Wilde — Mąż idealny. 22.55 Dziennik.

**Sobota 20.IV.** 6.30 Techn. Roln.: Język polski. 7.00 Chemia. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — Życie Eskimosów. 10.00 Zosia — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — Surowce energetyczne Polski. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — Człowiek i środowisko. 12.30 Techn. Roln.: Chemia. 13.00 Hokej. Czechosł — Szwecja. 15.15 Techn. Roln.: Język polski. 15.45 Progr. dnia. 15.50 Progr. I prop. 16.05 Inf. Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Sobótka. 17.00 Harcerskie popołudnie. 17.50 Nie tylko dla pań. 18.10 Szare na złote. 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 IV telewizyjne spotkanie z balladą. 21.25 Dziennik. 21.45 Sport. 21.55 Zosia — film. fab. radz. 23.05 Muzyka i... progr. rozr.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 12.IV.** 8.00 Spektakl. 13.30 Progr. dnia. 16.25 Śpiewa J. Gulajew. 16.45 Sport. 17.55 Hokej. Szwecja — ZSRR.

**Sobota, 13.IV.** 7.00 Progr. dnia. 8.25 Przegląd międzynar. 11.50 Koncert. 12.20 Piłka nożna. „Spartak" (Ordżonikidze) — „Dynamo" (Mińsk). 15.15 Hokej. Polska — Czechosł. 17.50 Film. fab. 19.00 Czas. 19.30 Panorama film. 21.00 Hokej. NRD — ZSRR.

**Niedziela, 14.IV.** 7.00 Progr. dnia. 8.00 Białe i czarne. 11.30 Film fab. 13.05 Śpiewa I. Bogaczowa. 13.55 Film anim. 14.25 Hokej. Szwecja — Polska. 16.45 Klub film. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Hokej. Fin. — NRD. 20.15 Konkurs tańców.

## КІНО

**Białowieża** Ślub bez obrączki (czes.) 16—17. Nieszczęście Alfreda (franc.) 18—19. Narkomani (USA) 20—21.

**Czeremcha** Dzikie dziecko (fran.) 16—17. Najlepsza kobieta mojego życia (czes.) 20—21.

**Czyże** Cudowny kożuszek (węg.) Rewizja osobista (pol.) 17—21.

**Dubicze Cerkiewne** Wynajęty człowiek (USA), Słuchajcie bicia dzwonów (jug.) 17—21.

**Gródek** Polonez Ogińskiego (radz.) 20—21.

**Kleszczele** Zdarzenie (jug.) 16—17. Zdradzieckie gry miłosne (czes.) 18—19. Kes (ang.) 20—21.

**Michałowo** Mężczyzna, który mi się podoba (franc.) 16—17. Koniokrady (USA) 18—19. Miasto nieujarzmione (pol.) 20—21.

**Mielnik** Śmierć wybiera (czes.) 16—17. Wilk morski (rum.) 18—19. Zemsta wilka morskiego (rum.) 20—21.

**Narewka** Dziewczyna z gór (jug.). Szatnia pełna królików (węg.) 17—21.

**Narew** Pod prąd (węg.). Zimorodek (radz.) 17—21.

**Nurzec** Na torze czeka morderca (czes.) 16—17. Ned Kelly (ang.) 18—19. Łobuz (fran.) 20—21.

**Orla** Ostatni watażka (bułg.). Roztargniony (fran.) 17—21.

**Rajsk** Sekret (pol.). Pogromca zwierząt (rum.) 17—21.

**Suchowola** Ciemna rzeka (pol.). Królewna w oślej skórze (fran.) 17—21.

**Szudziałowo** Homolkowie na urlopie (czes.), Ten okrutny nikczemny chłopak (pol.) 17—21.

**Milejczyce** Biały pokój (bułg.) 16—17. Chłopi (pol.) cz. I—II. 18—21.

# Я працавала ў сакратарыяце Грамады

(Працяг са стар. 1)

дзі прысылалі свае вершы. Але найбольш было скаргаў на секвестратараў, на падаткі, здзекі паліцыі, і просьбы, просьбы — дапамажыце!

— *Вы бачылі Браніслава Тарашкевіча зблізку. Раскажыце, калі ласка, пра характэрныя падрабязнасці, якія запаміталіся Вамі аб Ім, як аб чалавеку і беларусу?!*

— Перш за ўсё быў ён маім настаўнікам-прафесарам. У нашым класе выкладаў ён гісторыю беларускай літаратуры. Навучыў нас ганарыцца харастцвом і багаццем роднага слова! Не толькі мне адной урокі, якія даваў Браніслаў Тарашкевіч, з'яўляліся захапляючым падарожжам у свет літаратуры, значэнне якой выключна важнае такому народу, які змагаецца за сваё вызваленне. — Слова, гэта непераможная зброя!

Браніслаў Тарашкевіч, як сапраўдны марксіст, быў аптымістам і меў пачуццё гумару. Вызначаўся ён прыроджанай элегантнасцю ў спосабе жыцця, гутаркі, вопратцы. Не меў ён надакучлівых прымавак ці якіх-кольвек іншых звычак. Яго спакойныя паводзіны сведчылі аб цвёрдым характары і перакананнях.

У сакратарыяце Грамады сустрэў ён мяне проста ды ветліва, як сваю вучаніцу. Пажартаваў, што ў гэтай панурай кватэры будзе весялей...

Хачу дадаць, што Беларуская гімназія ў Вільні з'яўлялася не толькі сярэдняй школай, не толькі месцам навучання моладзі, але і цэнтрам беларускага культурнага жыцця. Існавалі розныя гурткі, адбываліся розныя ўрачыстасці. Пастаяннымі гасцьмі моладзі былі дзеячы беларускай культуры і навукі, кіраўнікі беларускай палітыкі, паслы і рэдактары... Тарашкевіч з'яўляўся найбольш каханым чалавекам!

— *Некаторыя гісторыкі сумняваюцца, ці сапраўды Грамада налічвала больш ста тысяч членаў? Калі Вы выпісвалі стотысячны членскі (сяброўскі) білет?*

— Я ўжо казала, што сяброўскія білеты мы спачатку высылалі па пошце, але пасля пачалі забіраць іх, асабіста, прадстаўнікі гурткоў, розныя пасланцы з вёсак і мястэчак. Аказалася, што высыланыя намі выпісаныя сяброўскія білеты недзе „губляліся", не даходзілі да людзей...

Дакладна не памятаю дня, калі быў выпісаны намі стотысячны сяброўскі білет Грамады. Памятаю толькі, што было гэта ў канцы лета 1926 года. Нас, у сакратарыяце, гэта асабліва не здзівіла: мы былі перакана괃ы, што другія сто тысяч з'явяцца яшчэ хутчэй! Людзі ішлі да нас цэлымі гуртамі, з усялякімі сваімі набалелымі справамі. Гэта была стыхія! Грамада з'яўлялася жаданым ратункам ад здзекаў ды самавольства тагачаснай улады.

Не без падстаў можна здагадвацца, што ўвосень лік членаў Грамады набліжаўся да двухсот тысяч!

— *У сакратарыят безупынна наведваліся людзі з розных куткоў Заходняй Беларусі...*

— Я ж казала, што Цэнтральны сакратарыят Грамады быў Меккай для падняволенага беларускага народу, які апынуўся пад панскім ботам... Людзі ішлі да нас няспынна — хаця ведалі, што каля будынка дзяжураць шпікі тайнай польскай паліцыі!

— *Які быў Ваш далейшы лёс?*

— Жорсткі гвалт над Грамадою не закончыў барацьбы і нікога не запалохаў — толькі больш зыйшлі мы ў падполле. Грамадоўцы масава ўступалі ў КПЗБ, уплывы якой раптоўна пашыраліся. Моладзь арганізоўвала гурткі Камсамолу. У 1927 годзе ў адным з іх апынулася і я, але гэта ўжо, як кажуць, іншая гісторыя.

— *Дзякую.*



*Зося Асаевіч, 1926 г.*

Інтэрв'ю правёў
**Сакрат Яновіч**



*Удзельнікі грамадскага чыну — працаўнікі гміннага ўпраўлення ў Гарадку са сваім начальнікам Яўгенам Матэйчукам.*

## У Баброўніках

Занядбаная, малалюдная вёсачка Баброўнікі ў Гарадоцкай гміне неўзабаве пачне аднаўляцца. Распачнецца там будова вялікіх мураваных дамоў для аб'яднанай спулдзельні прадукцыйнай, якая будзе займацца авечкагадоўляй. На гэта будаўніцтва, як інфармаваў нас начальнік гміны ў Гарадку Яўген Матэйчук, дзяржава прызначыла 80 мільёнаў зл. У сакавіку людзі шмат працавалі грамадскім чынам пры парадкаванні вёскі. Нават 20 старэнькіх хат было разабрана.

**Тэкст і фота М. Х.**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: На якой аснове суд разграничвае землі суседзяў, калі няма дакументаў, на падставе якіх магла б быць устаноўлена мяжа?

АДКАЗ: Калі ў вёсцы была праведзена камасацыя і захаваліся камасацыйныя планы, справа разгранічэння суседніх палёў простая. Пакліканы судом эксперт-геадэзіст без цяжкасці ўстановіць мяжу паводле плана. Аднак часта здараецца так, што ў вёсцы камасацыя не праходзіла, альбо была праведзена перад вайной і дакументы не захаваліся, а няма іншых даных, на падставе якіх можна было б устанавіць мяжу. У гэткіх выпадках прымаюць пад увагу перш за ўсё апошняе спакойнае карыстанне. Яго ўстанавіць лёгка, калі, напрыклад, землі адгароджаны плотам, або на мяжы знаходзяцца трывалыя знакі (растуць дрэвы або ляжаць каменні). Аднак не заўсёды так бывае. Здараецца, што, напрыклад, на сенажацях нельга ўстанавіць відавочнай мяжы, а сведкі таксама дакладна не ведаюць, дзе яна знаходзіцца. У такім выпадку суд устанаўляе мяжу, прымаючы пад увагу розныя абставіны. Калі вядома, што палосы сенажацей роўныя, тады мяжа ўстанаўліваецца так, каб палосы аставаліся роўнымі. Калі спор адносіцца да таго, ці мяжа праходзіць па прамой лініі ці ламанай, то пры адсутнасці доказаў суд прымае лінію прамую.

## „Ніва" ў кіёску

Продаж газет у кіёсках „Рух" у Гайнаўскім павеце, як і ўсюды, вядзе рабочы выдавецкі кааператыў „Прэса — Кніжка — Рух" — аддзел у Гайнаўцы. Кіраўніком гайнаўскага аддзела з'яўляецца тав. Пётр Кульгаўчык, які вядзе гэтую работу ўжо 15 год. Кіраўнік многа ўвагі прысвячае пашырэнню чытання газет і асабліва „Нівы" і „Газеты Беластоцкай". На кожнай нарадзе прадаўшчыкоў кіёскаў і клубаў „Рух" ён цікавіцца, колькі гэтых газет прадаецца, павучае, як павялічыць продаж, асабліва „Нівы", бо ж у Гайнаўскім павеце пражывае найбольш беларусаў, для якіх „Ніва" і выдаецца.

Радуе факт, што „Ніва" з году ў год павялічвае тыраж. У гэтым заслуга і гайнаўскага кальпартажнага апарату.

Гайнаўскі аддзел пры дапамозе сваёй сеткі кіёскаў і клубаў распаўсюджвае „Ніву" ў горадзе і на вёсцы. Гэта прадстаўляецца так:

| | 1973 I квартал | 1974 I квартал |
|---|---|---|
| падпіска ў горадзе | 291 | 291 |
| продаж у кіёсках у горадзе | 260 | 310 |
| продаж у кіёсках на вёсцы | 480 | 511 |
| Разам | 1031 | 1112 |

Добрыя вынікі ў продажы „Нівы" мае Надзея Тапор — кіёск № 81 у Гайнаўцы — 60 экземпляраў і Яўгенія Кас'янюк з Чаромхі — 55 экземпляраў.

**Раса**

## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦЁТКА — ЧАСТКА X

Зоймемся апошнімі вершамі з пазітывістычнага цыкла. Да іх трэба залічыць творы „З новым годам", „З чужыны", „Грайка", „Гаданне", „Лучынка".

У вершы „З новым годам" гучыць па сутнасці той матыў, які дамінаваў у дарэвалюцыйнай лірыцы Цёткі. Пісьменніца задумваецца ў ім над будучыняй:

„Гэй, ты братка, Новы годзе,
Што з сабою нам нясеш?
Што пасееш ты ў народзе?
Што на нівах ты пажнеш?
(„З новым годам")

Падабенства гэта толькі знешняе. У рэвалюцыйнай лірыцы дамінавала цвёрдае перакананне аб станоўчым, згодным з рэвалюцыйным дзеяннем мас характары заўтрашняга дня. Там, з паэзіі Цёткі біла перакананне аб тым, што будучае — гэта перамога рэвалюцыі. Тут, у вершы „З новым годам", напісаным у 1907 годзе, веры ў заўтрашні дзень няма. У гэтым творы няма ўпэўненасці, няма заклікаў, няма заданняў, ёсць толькі пытанні, якія можам атоесамліваць з сумненнямі паэтэсы. Па сутнасці ўсе радкі верша канчаюцца пытальнікамі. Твор сведчыць аб тым, што ў сэрцы паэтэсы засталося імкненне да свабоды, але знікла з яго ўпэўненасць аб яе рэальнасці.

Наступныя тры вершы: „З чужыны", „Грайка", „Гаданне" — гэта тыповыя элегіі. Трывога за лёс айчыны, бесперспектыўнасць побыту за мяжой, інстынктоўнае прадчуванне заўчаснай смерці — гэта тыя моманты, якія акрэслілі журботны тон гэтых трох твораў. Набліжэнне асабістай драмы, мабыць, было тым грунтам, на якім выраслі гэтыя сумныя лірычныя кветкі. Цётка была такім тварцом, які ніколі не ўмеў і не хацеў аддзяляць уласнага, асабістага ад чужога, агульнага, грамадскага. Названыя вышэй вершы пацвярджаюць такую думку. Самая страшная кара для паэта — забраць у яго айчыну. Цётка многія гады была па-за радзімай, усё жыццё не мела вольнай, незалежнай айчыны. Факты гэтыя не засталіся без уплыву на яе паэзію. Паслухайма:

„І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля, па моры плыла бы да іх".
(„З чужыны")

Цётка атоесамлівала свой лёс з лёсам роднага краю, свой паэтычны шлях — з пакутным шляхам беларускага народа, сваю драму — з драмай усіх беларускіх жанчын. Гэтае атоесамліванне даходзіла часта да поўнай ідэнтыфікацыі. Таму, у многіх выпадках, чытаючы яе вершы, не ведаем, ці гаворыць яна аб сабе ці аб уласнай краіне, аб сабе ці аб першай лепшай беларускай жанчыне. Прыкладам такога паэтычнага зліцця асабовасці паэтэсы з беларускай жанчынай можа быць верш „Гаданне".

„Загадай, зязюля, закукуй аб шчасці,
Варажы аб долі запрапаўшай Насці.
Дзе вянок руцяны, дзе сынок ядыны?
Дзе краса падзелась з лічыка дзяўчыны?
Чаму ў аковах несці тонкі рукі?
Чаму твар скаціўся ад страшэннай мукі?"

Чытаем і губляемся: кім ёсць Насця? Ці Насця — гэта беларуская дзяўчына, з якой сустрэлася паэтэса? Ці Насця — гэта літаратурны персанаж, прыдуманы паэтэсай, ці Насця гэта сама паэтэса Ліза?

Адным з апошніх твораў Цёткі быў верш „Лучынка", напісаны ў 1914 годзе. Верш гэты быў звязаны з беларускім часопісам „Лучынка". Цётка прымала непасрэдны ўдзел у арганізацыі часопіса. Верш з'яўляецца тыповай для пазітывізму асветніцкай праграмай. Праяўляецца ў ім фетышызацыя асветніцтва як сродка вызвалення чалавека. У сваіх канчатковых вывадах верш Цёткі набліжаецца да вядомага верша Янкі Лучыны „Роднай старонцы". Твор Цёткі канчаецца словамі, якія могуць трактавацца як творчы запавет паэтэсы:

„Моладзь, вы — сіла ў кожнай хаце,
Вы — сонейка, радасць для бацькі, для маці.
Вучыцесь, старайцесь, багацесь у сілы,
Бо жджэ вас з надзеяю край наш радзімы".
(„Лучынка")

Канчаючы разважанні аб паэзіі Цёткі, варта падкрэсліць, што ўнесла яна ў беларускую літаратуру подых навальніцы. Цётка, як і другія паэты-нашаніўцы плакала над сучаснасцю, але ў адрозненне ад іх радавалася перспектывам будучага. Памылілася, бо вызваленне народа не сталася ні так хуткім, ні так лёгкім, як здавалася паэтэсе. Новум героя Цёткі праявілася ў тым, што ён першы ў беларускай літаратуры ўзняў чырвоны штандар барацьбы. Цэласць паэзіі Цёткі збудавана па прынцыпу антытэзы. Вера і бязвер'е, аптымізм і песімізм акрэслілі яе вершы. Бадай што ў ніводнага з беларускіх паэтаў няма ў вершах столькі пытальнікаў і клічнікаў, як у Цёткі. У гэтым фармальным прыёме праявілася ўся зместавая і ідэйная спецыфіка паэтэсы, для якой творчасць была катэхізісам — элементаром пытанняў і адказаў, звязаных з сучасным і будучым Беларусі.




Вясковая хата ў Альхоўцы. Сышліся суседкі, расказваюць.

— Ой, ведаеце, бяда ў нас была. Яшчэ якая бяда! Вы ж падумайце, каб пяць літраў малака несці невядома за які свет! Ніхто і не панёс бы ў Плянту, бо ж то і сэнсу няма, гэта ж з малака масла па дарозе саб'ецца. Але, слава богу, ужо залатвілі. Прыязджаў учора з гайнаўскай малачарні кіраўнік. Добры такі чалавек, людскі. Сабраў людзей на сход, усіх выслухаў, пагаварыў. І абяцаў, што малачарня будзе. Бабы рукі яму цалавалі, плакалі ад радасці...

— І праўда, чаму ж не быць тут ёй, той малачарні, — умешваецца другая. — То ж у хаце, дзе тая Ліда прымае, чысценька, ды і месца там нямала. Лепшага будынка ў вёсцы не знойдзеш.

— Як жа ж можа быць, панечка, каб у такой вёсцы, як наша, не было скупу малака? — уключаецца трэцяя. — Няхай сабе і ў каго іншага будзе, але быць павінен. Мы ж і цялушак новых накуплялі, каб больш малака было. Я летась дзве рабенькія купіла. Добрыя кароўкі зараз будуць. Будзе і малако. Цяпер я ад адной каровы здаю, дык больш тысячы злотых у месяц маю. А хутка больш будзе.

— А я такую цёмненькую, чырвоную цялушачку купіла, з тых пародзістых, малочных. Паглядзім, якія лепшыя будуць, — падае гаспадыня.

Слухаю я гэту гутарку і думаю. Вось уся вёска хоча мець у сябе пункт скупу малака. На сходзе ўсе, хто прыйшоў, 38 гаспадароў, падпісаліся за гэта. І пункт скупу ёсць. Хоць у старой хаце, але там чысценька, і не так ужо і цесна. А на 1975 год, як гавораць у вёсцы, плануецца пабудова спецыяльнага будынка.

Дык у чым жа справа? Чаму быў стрыманы скуп малака?

Аказваецца, у вёсцы знайшліся, як гэта часта бывае, незадаволеныя. Першым з іх быў дзядзька Ян Раманчук, сын Дзям'яна. Ён даўно ўжо, як кажуць людзі, жыве ў нязгодзе з Лідай Вярбіцкай, якая прымае малако ў сваёй хаце. Ніхто ўжо добра не памятае, ад чаго тая нязгода пачалася. Ці то за авечку, ці за што іншае. Толькі не можа пагадзіцца дзядзька Раманчук, што вымушаны штодзень хадзіць туды, у той дом, з кім пасварыўся. Ганаровы дзядзька, ды з характарам. Лепш ён ужо будзе ў Плянту вазіць малако, за 7 кіламетраў, але Вярбіцкай не даруе, будзе пісаць скаргі, пакуль пункт не закрыюць. Так ён і казаў у вёсцы. Няхай жа і яна карысці з таго не мае.

Кажуць, што дзядзька Раманчук і збожжа малоць ездзіць у далёкую вёску, хоць млын ёсць на месцы. Бо і з млынаром, сваім суседам праз плот, пасварыўся за нейкія там леташнія справы. Відаць, нялёгка жыць у вёсцы чалавеку з такім характарам.

Падпісалася пад скаргай на Ліду Вярбіцкую і Антаніна Галабурда. Яна лічыла сябе пакрыўджанай, што ёй вызначылі нізкі працэнт тлушчу ў малацэ, бо толькі 4,2%. Сабралася грамадская камісія, каб праверыць яшчэ раз тое малако, але цётка Антаніна такога недаверу да яе слоў сцярпець не магла і, раззлаваўшыся, разбіла пробную бутэлечку. Пасварылася з прыёмшчыцай і павезла малако ў Плянту. Там аказалася, што ў тым малацэ ёсць толькі 3,6% тлушчу. Таму цяпер і цётка Антаніна згаджаецца насіць малако да Вярбіцкай.

Дзякуючы хуткаму і дзейснаму рэагаванню на скаргі з боку акруговай малочнай спулдзельні, у Альхоўцы зноў адкрыты пункт скупу малака. Але колькі ж нерваў патрацілі людзі ў вёсцы, колькі гадзін страцілі прадстаўнікі малачарні, каб направіць тое, што могуць нарабіць адна-дзве асобы.

Пакуль што іншага выхаду ў Альхоўцы няма — пункт скупу малака павінен быць там, дзе ён ёсць. І з гэтым трэба згадзіцца да пары, пакуль не будзе пабудавана новая злеўня малака. Цяпер справа вырашана, і думаем, што больш не будзе з Альхоўкі вестак, што няма там куды дзяваць малака.

**Яніна Чэрнякевіч**

## ФАЛЬКЛОР

110

ХРЫСЦІННАЯ




*Ой, мой жэ ж ты, кумусеньку,*
*Вэді мэнэ помалюсеньку.*
*Хоть ты мэнэ на мэжыэ положы,*
*Но моёму мужыку нэ скажы!*
*Хоть ты мэнэ на мэжыэ положы,*
*Но моёму мужыку нэ скажы!*

*А шчэ й мэнэ на мэжыэ нэ клалі,*
*Вжэ й моёму мужыку сказалі.*
*Бэрут ёго думкі хваткі,*
*Што чужые жоночкі гладкі.*
*Бэрут ёго думкі хваткі,*
*Што чужые жоночкі гладкі.*

Ад Анны Стахвіюк, год 50, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

**ЛЮДЗІ, ЯКІХ СУСТРАКАЕМ ШТОДЗЕНЬ**

## ВАЛЯ МАТВЕЮК



Маладая жыхарка вёскі Міхнаўка Гайнаўскага павету Валя Матвеюк працуе прадаўшчыцай у суседняй вёсцы Ляшукі. Працу пачынае ў 8 гадзін раніцы, як амаль кожны гандлёвы работнік з цэлай звышмільённай сям'і прадаўшчыц і прадаўшчыкоў у нашай краіне. Штодзень сустракаецца яна з многімі жыхарамі ляшуцкай акругі і ўсіх іх ветліва і культурна абслугоўвае. У краме, у якой яна працуе, такі парадак, які рэдка сустрэнеш у іншых вясковых гандлёвых павільёнах.

Цяпер Валя Матвеюк мае асабліва многа работы: яна прадае харчовыя тавары, прамысловыя вырабы, а да таго ўсяго вясковыя гаспадыні нясуць безупынна прадаваць яйкі. Што ж, ідзе на весну.

У вольную хвіліну пачалі мы з Валяй размову.

— Я рада, — кажа наша субяседніца, — што нялёгкая праца прадаўшчыц і прадаўцоў належна ацэнена нашай партыяй і ўрадам. Маю на думцы павышэнне зарплат ад 1 чэрвеня гэтага года. Такім чынам павысіцца ранг работніка гандлю. Павышэнне зарплат, несумненна, мабілізуе да больш саліднай работы, да паляпшэння культуры абслугоўвання. Мы, прадаўшчыкі вясковых крам з харчовымі таварамі, працуем у найбольш цяжкіх умовах. Спадзяемся, што наш рэсорт зоймецца справай так званай малой механізацыі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

### ПАВЯЛІЧЫЦЦА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ

Развіццё жывёлагадоўлі — адно з галоўных заданняў нашай ваяводскай сельскагаспадарчай палітыкі. 1 мільён штук кароў у 1978 годзе на Беласточчыне — велізарны план, які ўжо дакладна распрацаваны ў кожным павеце і ў кожнай гміне. Гміна Чыжы на Гайнаўшчыне ў 1978 годзе будзе мець 7 тысяч кароў, гэта значыць, што будзе іх больш у параўнанні з 31.XII.1973 года на 1620 штук. Сяляне прымаюць абавязацельствы адносна павелічэння быдла і ў сувязі з гэтым стараюцца замяняць існуючую пароду быдла на пароду „нцб". У Чыжоўскай гміне кароў гэтай пароды налічваецца цяпер каля 700 штук. На 100 га зямлі тут прыпадае каля 54,4 штук кароў, у той час, калі ў сярэднім у павеце — толькі 44.

У Чыжоўскай гміне плануецца павялічыць таксама на 7 прац. свінагадоўлю і на 10 прац. авечкагадоўлю. І ў пасевах зернавых культур плануюцца тут змены. Павялічацца пасевы пшаніцы і ячменю за кошт памяншэння аўса і жыта. І так, пшаніцы будзе засеяна 1050 га — гэта значыць на 112 больш, як у мінулым годзе. Ячменю запланавана пасеяць 810 га, больш ад мінулага года на 50 га. На 8 прац. павялічацца ў гэтым годзе пасевы рапсу, лубіну і ільну. (мх)

### АГУЛЬНАПОЛЬСКІ КОНКУРС ЗБОРКІ МАКУЛАТУРЫ НА ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ ДЗІЦЯЦІ

Распачаўся агульнапольскі конкурс зборкі макулатуры, арганізаваны па ініцыятыве лодзінскай цэнтралі другаразовай сыравіны пад назвай „Гаспадарныя і ашчадныя будуюць Цэнтр здароўя дзіцяці". Кіруе гэтым важным з гаспадарчага пункту гледжання мерапрыемствам Выканаўчы камітэт Цэнтра здароўя дзіцяці, паколькі ўвесь даход з яго прызначаецца на будову помніка-бальніцы для наймалодшых.

Удзельнікаў конкурсу чакае 5 тысяч узнагарод — у тым ліку самаходы, матацыклы, тэлевізары, мотавеласіпеды, радыёпрыёмнікі, фотаапараты і іншыя рэчавыя ўзнагароды.

Кожны, хто да 30 мая гэтага года прынясе на пункт скупкі 10 кілаграмаў макулатуры, атрымае бон, які прымае ўдзел у розыгрышы ўзнагарод. (ця)

### БУДЗЕ ПАЧАКАЛЬНЯ

У зімнюю сцюжу і ў летнюю спякоту вельмі добра, калі на аўтобусным прыпынку ёсць дзе схавацца, калі ёсць такое памяшканне — пачакальня. Іх усё больш і больш на нашых дарогах. Жыхары вёскі Нарэйкі (у гміне Гарадок) пад кіраўніцтвам нядаўна выбранага солтыса Надзеі Лакель грамадскім чынам будуць будаваць на сваім прыпынку ПКС такую пачакальню. (мх)




### БОСАЙ ПЯТКАЮ НА ГВОЗДЗЬ

Не за гарамі гэта было, а ў самым што ні ёсць горадзе Беластоку.

Зірнула Зося на свайго мужа і вачам не верыць. Засучыў той нагавіцы і шчоткаю ногі шаруе, аж пена наўкруга пырскае. Ногці пры тым абрэзаў, абпілаваў акуратна.

— А ты што гэта, Вінцук, — заенчыла. — На баль які выбіраешся, ці як?

— Змоўкні, баба, — буркнуў той злосна. Мне тут бяда, а ёй дурніцы ў галаве. Як я іначай на работу заўтра выйду? Уяві сабе, прадпрыемства наша, дарожны аддзел ПКП у Беластоку не выдала нам яшчэ належных за 1972 год чаравікаў. Старыя, вядома, разваліліся. Дзякуй богу, пагода нядрэнная, можна будзе і на босую нагу папрацаваць. А ногі, вядома, ногі — калі іх ужо даводзіцца на свет выстаўляць, то памачыць не пашкодзіць.

Узялася пад бокі Зоська.

— Ты што? Ангіну падхапіць хочаш? Свае б якія чаравікі на работу альбо хоць шкарпэткі цёплыя нацягнуў бы.

— Нельга, бачыш. Паводле правілаў БГП мы абавязаны насіць абутак са сталёвымі наскамі. Гэта, ведаеш, калі што цяжкае на нагу ўпадзе, каб пальцаў не пакалечыла.

Да звычайнага чаравіка як ты такую штуковіну прымацуеш? Мы ўжо да чаго хочаш пробавалі, і да валёнак і да калошаў нават. Ніяк не трымаецца — хоць ты трэсні.

Адзіны выхад — у адпаведнага размеру банку ад кансерваў упіхнуць пальцы, каб начальства не казала, што без забеспячэння працуем. Калі ж на шкарпэтку — дзерці яе будзе. На босую нагу трэба. Мне яшчэ танна абышлося. Купіў пару піваў, дзве баначкі лешча ў таматным соусе — умяў і ўжо ў зброі. А хлопцам некаторым, у якіх ступня 44-га размеру, дык тушонку свіную браць даводзілася — а гэтага ўжо без паўлітра не асіліш.

Думалі, ботаў не даюць, то хоць грошы заплацяць — было, не было, 350 зл. На чай там які гарачы, каб разагрэцца, ці аспірын і сіроп ад кашлю хапіла б — дацягнулі б неяк да лета. А дзе там. Не далі ні граша ад лістапада 1972 г.

Раз у год працаўнікам дарожнага аддзела ПКП у Беластоку належалася пара службовых ботаў ПКП. Тэрмін выдачы ў кастрычніку 1972 г. У лістападзе таго ж года, не дачакаўшыся ні чаравікаў, ні грошай, загадчык раёна будынкаў Леон Дуброўскі выслаў у дарожны аддзел ПКП у Беластоку за нр. 5-31(56)22 адпаведную заяву са спіскам 14-ці пакрыўджаных работнікаў.

Чакалі, чакалі — не было адказу.

Якая справа дарожнаму аддзелу да нейкіх там „басаногіх", калі тых у міжчасе перавялі пад каманду аддзелу будынкаў ПКП у Беластоку? А новы аддзел, як жа, ад новага тэрміну акуратна выдае новыя боты. Што аднак будзе з абуткам, належным за 1972 г.? А каму якая справа? У каго мазалі, той няхай і ногі мочыць.

Не памог і тыднёвік чыгуначнікаў „Сігналы", да якога звярнуўся 13 студзеня 1974 года адзін з працаўнікоў — Станіслаў Кужына. Ён, праўда, атрымаў 26.I.74 г. ветлівы адказ (за нр. 188/74) з просьбаю, каб дазволіў рэдакцыі „Сігналаў" выявіць сваё прозвішча, і таго ж дня тэлефанічна выразіў згоду. Далей аднак цішыня. Усе маўчаць, быццам бы вады ў рот набраўшы.

Пасядзелі рабочыя на рэйках — патыліцы чухаюць. Што ім рабіць, куды звярнуцца, у каго шукаць праўды-маткі?

А можа проста — ногі ўверх — і здавацца? Сваіх праў не даходзіць? Ну-у-у? Ці ж бы?

**Ларс**



(Працяг са стар. 3)

# ВЯСЕЛЛЕ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

паўтараецца многа раз. На канец гэтага абраду падыходзяць да маладых апошнія госці, складаюць маладой падарункі і жадаюць шчаслівага жыцця. Позняй ноччу ўсе госці маладога збіраюцца ехаць дамоў. Забіраюць таксама і маладую.

Прыехаўшы да маладога, два сваты хутчэй, пакуль не ўвойдуць у хату маладыя, сядаюць у кутку пад абразамі (месца маладых), адзін з іх пераапранаецца за маладую, яны не ўпускаюць туды маладой пары. Малады павінен выкупіць сваё месца. Потым робяць розныя фокусы ў ложку маладых, каб было з чаго пасмяяцца. Найчасцей кладуць туды сухія палены, або кладуцца ў ложак, каб зноў сцягнуць з маладога. На гэтым канчаецца. І ўсе ідуць адпачываць. Потым, дзесьці ў дзесяць гадзін раніцы збіраюцца сваты і думаюць, як павітаць гасцей маладой, якія неўзабаве маюць прыехаць. Часта перавязваюць вуліцу ланцугамі і не ўпускаюць, пакуль не дадуць ім гарэлку. Пры ўездзе на панадворак стаяць паўтыканыя ў зямлю розныя страхі. На парозе часта вітае гасцей нейкая пара, пераапранутая за маладых. На панадворку ў той час сваты маладога таргуюцца з сватамі маладой. Апошнія не хочуць так лёгка аддаць прыданага, якое прывезлі. Найчасцей яны патрабуюць пэўную колькасць гарэлкі. Ім падносяць у бутэльцы ваду і закуску, зробленую з сырых буракоў і бульбы, прабуючы ашукаць. У той час прабуюць распрэгчы каня. Калі ўдасца, то прыданае забіраюць без выкуплівання, калі не, то мусяць даць тое, што ад іх патрабуюць. Дайшоўшы да нейкага толку, прыехаўшыя госці ўстромліваюць, або ставяць каля хаты чырвоны сцяг, які прывезлі, аддаюць курыцу, убраную каляровымі стужкамі, якую везла, седзячы ззаду за скрыняй, хрышчоная матка маладой, і ўносяць у хату скрыню. Потым сядаюць за сталы і ўсё адбываецца так, як у маладой. Выходзіць маршалак, выклікае гасцей, і зноў складаюць падарункі. На заканчэнне прыходзяць да маладога нежанатыя сваты з вялікім аркушам паперы, на якой запісаны прозвішчы ўсіх хлапцоў гэтай вёскі, і з вялікім алоўкам. Гэтым алоўкам малады выкрэслівае сябе са спіска хлопцаў, таму што ён ужо пераходзіць у групу жанатых. У гэты дзень маладая сядзіць без вэлюма, таму што яна ўжо замужняя. Потым адбываюцца танцы, і на гэтым ўсё канчаецца. У чацвер адбываецца гасціна. Адбываецца яна ў маладога. На гасціну просяць толькі старэйшых. А ў першую суботу пасля вяселля адбываецца такая ж гасціна ў бацькоў маладой. На гэтым канчаецца вяселле.

**Міхась Шаховіч**




*Хата ў Чыжах (Гайнаўскі павет).* *Фота В. Рудчыка.*




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Хачу я да цябе звярнуцца ў адной справе. Закончыўшы агульнаадукацыйны ліцэй, я хацела паступіць вучыцца ва ўніверсітэт у Любліне. Экзамен, аднак, я здала толькі на тройкі, і мяне не прынялі. Потым я тры месяцы працавала настаўніцай. І вось мінула ўжо два гады з таго часу. Цяпер я замужняя, у мяне маленькі сын, аднак мары стаць настаўніцай не пакідаюць мяне. І таму прашу цябе, „Сэрцайка“, напішы мне, ці магу я завочна вучыцца ў ВСН (я працую на гаспадарцы). Я хацела б стаць настаўніцай рускай мовы. Калі ёсць такая магчымасць, падай мне адрас той школы і напішы, калі пісаць паданне.

Калі б я не магла ўжо завочна вучыцца ў той школе, дык напішы, куды трэба звярнуцца, каб стаць бібліятэкарам.

**Чытачка з Гайнаўшчыны**

Каб даць Вам поўны адказ на Вашы пытанні, мы звярнуліся ў Інстытут навучання настаўнікаў у Беластоку (Instytut Kształcenia Nauczycieli).

Вось і адказ: вы можаце старацца паступіць на завочнае аддзяленне рускай філалогіі ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку (цяпер гэта школа ўжо не называецца ВСН, а Філіял Варшаўскага ўніверсітэта). Для гэтага трэба Вам узяць друк-анкету, якую можна атрымаць у любой сярэдняй школе або ў Філіяле УВ. Далей патрэбны: атэстат сталасці, аўтабіяграфія, пасведчанне аб здароўі, 3 здымкі, пацверджаныя на абароце пячаткай. Паданні складаць як найхутчэй. Аб экзамене вам паведамяць.

Адносна бібліятэкарскага навучання: кваліфікацыі бібліятэкара можна атрымаць завочна на курсе ў Беластоку. Падаем назву і адрас:

Państwowy Ośrodek Kształcenia Korespondencyjnego Bibliotekarzy w Białymstoku, ul. Kilińskiego.

Звяртайцеся да іх непасрэдна.

**„Сэрцайка“**




**ДА ЦЯБЕ...**

Песня
звіныт,
голос
дрыжыт,
а ты
ны чуеш мэнэ.
Вэсна
за порогом,
жар яе
доходыт
до груды,
а ты
моўчыш.
Спокуй
у В'етнаме,
шчасце
у светы
прыбірае
на сілах,
а ты очы
спустыў ў ныз.
Нэ, то ныпраўда
скажы, жэ то фалш,
жэ я только
выображаю,
але
ты моўчыш...
затыхаеш...

**Ніна**

*ХВАЛЯВАННІ*

*Вядомы нам два хваляванні:*
*дзяўчат —*
*перад спатканнем,*
*салдат —*
*перад заданнем.*
*Два хваляванні —*
*Так розныя па зместу.*
*Дзяўчына*
*— марыць аб каханні.*
*Салдат*
*— аб цяжкім баявым заданні.*
*Два хваляванні*
*Дваццатага стагоддзя —*
*Характары*
*тое*
*кароткае*
*эпохі.*

**Люцына Янушкевіч**




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ПТУШКА НА СВЯТА

**Смажаная качка з фаршам**

На адну качку бярэм адну булку, адно яечка, два дэкі масла ці маргарына, чатыры дэкі сала, пячонку з качкі, соль, майранак і мускатны арэх (мушкаталовая галка).

Качку забіць на тры-чатыры дні раней, аскубсці, ачысціць, пакінуць у пограбе, у халодным месцы. Перад падрыхтоўкай качкі асмаліць яе, адрэзаць шыю і крылцы, нацерці соллю і майранкам. Падрыхтаваць фарш. Расцерці жаўток з маслам, дадаць намочаную і адціснутую булку, пасечаную пячонку і сала, нарэзанае вельмі дробненька. Атрыманую масу запрáвіць соллю, цукрам і сцертай мушкаталовай галкай ды вымяшаць са збітай пенай. Фарш палажыць у жывот качкі, зашыць, ножкі прывязаць да тулава. Качку палажыць на бляшку хрыбтом уніз і ўставіць у духоўку. Калі мяса стане румянае, спырснуць качку вадой і дасмажыць у менш гарачай духоўцы. У канцы смажкі палажыць каля качкі некалькі абабраных, парэзаных на палавінкі яблыкаў і запячы іх, перад гэтым паліўшы і пасыпаўшы майранкам.

Падаваць качку з яблыкамі, бульбай і салатам (найлепш з чырвонай капусты).

**Заліўная смажаная курыца**

На адну курыцу ці вялікае кураня бярэм лыжку масла ці маргарына, соль, два дэкі жэлаціна, два яечкі, зялёную пятрушку.

На гадзіну перад тым, як будзем курыцу смажыць, трэба яе пасаліць. Прывязаць ножкі да тулава, выламаць мосцік, адрэзаць шыю і крылцы, змазаць растопленым тлушчам і ўставіць курыцу ў духоўку. Калі мяса стане румянае, падліць вады і, спырскваючы курыцу некалькі разоў у час смажкі, дасмажыць яе, пакуль не стане мяккай. Курыцу выняць з духоўкі, астудзіць. Да атрыманага соусу даліць дзве шклянкі вады, крыху пакіпяціць, пасля чаго дадаць намочаны жэлацін. Соус працадзіць, астудзіць, аддзяліць ад яго тлушч, калі ёсць. Курыцу перарэзаць уздоўж напалову, аддзяліць ножкі, асцярожна зняць мяса з грудзей. Мяса з іншых частак дробна нарэзаць, палажыць у плоскую форму, заліць паловай галярэткі, астудзіць. Мяса з грудзей і ног нарэзаць скрылёчкамі, палажыць звёздачкамі на астуджанай галярэце, на гэта яечка, зялёную пятрушку, марынаваныя слівы і ўсё заліць рэштай галярэты.

Падаваць гэтую патраву, выняўшы з формы, разам з брусніцаю, марынаванымі слівамі, лімонам.

**Гаспадыня**







Наўрад ці існаваў на свеце чалавек, якога Казімір Вышаслаўскі любіў бы па-сапраўднаму. Нават дачку, пяшчотную і прыгожую Стасю, адзіную ўцеху пад старасць, і тую любіў ён хутчэй як сваю ўласнасць, а не як роднага і блізкага чалавека. У душы яго не заставалася месца для бацькоўскай ласкі. Але затое многа было месца для нянавісці. Вышаслаўскі ненавідзеў і фашыстаў, і Саветы, і сваіх галадранцаў-аднавяскоўцаў, а больш за ўсё — Тадэуша Касцянецкага, новага солтыса Кудароўшчыны. Сустракаючыся на вуліцы, не вітаўся з ім і не размаўляў. Але хіба можна не размаўляць з солтысам — ён улада. Касцянецкі паказаў савецкім салдатам хату Вышаслаўскага, у якой найбольш зручней размясціцца заставе, ён прыносіць Вышаслаўскаму нейкія паперкі, па якіх патрабуе хлеба, мяса, малака. Ён — самы заняпалы галадранец, бяздомны бадзяга — цяпер атрымаў уладу і камандуе самім Казімірам Вышаслаўскім. Як тут не лютаваць!

Тадэуш Касцянецкі плаціў Вышаслаўскаму тою ж самаю цаной... Але ў яго была перавага: ён любіў і ўмеў радавацца жыццю, і таму не згараў ва ўласнай няўтольнай нянавісці, не лютаваў. Ён добра ведаў жыццё, якое вучыла яго доўга і жорстка.

За свае шэсцьдзесят год Касцянецкі многа паблукаў па свеце і шмат чаго пабачыў. Абабраў яго да ніткі некалі Вышаслаўскі, задушыў даўгамі. Цярпеў, пакуль можна было цярпець, а калі стала зусім немагчыма, забіў хату дошкамі і падаўся з Кудароўшчыны куды вочы глядзяць.

У тыя гады такія, як ён, валам валілі за акіян, у Амерыку, дзе, як казалі тады, грошы можна было рабіць з самога паветра. Паехаў туды і Касцянецкі. Чысціў боты на Брадвеі, працаваў на ферме ў сонечнай Айове, плаваў матросам на Місісіпі, мыў посуд у рэстаранах Сан-Францыска. Працаваў як пракляты, але так і не набыў грошы.

Плюнуў на Амерыку і пачаў блукаць па свеце. А неўзабаве заўважыў, што блуканні неяк самі па сабе набліжалі яго да роднай Польшчы. Перад рэвалюцыяй апынуўся ў Расіі. Працаваў стрэлачнікам на чыгунцы ў адэскім порце. А калі вярнуўся на радзіму, трапіў у армію Пілсудскага, і яго паслалі ваяваць з маладой Савецкай рэспублікай. Ваяваць Касцянецкі не хацеў і здаўся ў палон кавалерыстам Будзённага.

А потым ужо не асмеліўся паявіцца ў Кудароўшчыне, асеў у Гданьску, вольным горадзе, працаваў на верфях. І толькі ў трыццаць дзевятым годзе вярнуўся ў родную вёску. Жонкі ўжо не было, памерла, а неўзабаве і дачка. Застаўся толькі з сынам Баляславам. Калі Касцянецкі ўбачыў бярозу на доўгай, ціхай вуліцы Кудароўшчыны, сваю хаціну, аселую ў зямлю па самыя вокны, вырашыў, што нікуды і ніколі больш ён адсюль не пойдзе.

Восенню ў вёску прыйшлі гітлераўцы. Стары ўжо быў Касцянецкі, але пайшоў у партызаны разам з сынам. Быў паранены, страціў вока. Дзякуй рускаму ўрачу, які выпадкова трапіў у партызанскі атрад. Ён зрабіў аперацыю, інačай страціў бы і другое вока.

Ваяваў Касцянецкі і верыў, што наблізіцца, нарэшце, той дзень, калі ў роднай Польшчы пачнецца новае жыццё. І ўжо не давядзецца палякам пакідаць родную зямлю, каб шукаць шчасця недзе на чужыне.

І вось, гонячы перад сабой фашысцкую навалач, прыйшлі на польскую зямлю савецкія салдаты, а жыхары Кудароўшчыны абралі яго, Касцянецкага, старастам.

*

...У халодны асенні вечар Касцянецкі і Баляслаў сядзелі ля цёплай грубкі і абмяркоўвалі вясковыя справы. Хата іх стаяла на супрацьлеглым ад заставы канцы вёскі, ля самага лесу.

Вецер кідаў у вокны апалае лісце, жаласна парыпваў стары журавель над калодзежам. На падворку раптам пачуліся крокі, потым скрыпнулі прыступкі старога ганка, і ўсё заціхла. Баляслаў выйшаў у сенцы.

— Хто? — спытаў ён.

— Жолнеж рускі, — хрыпла адказалі за дзвярыма.

Баляслаў упусціў госця, запаліў газоўку, зробленую са снараднай гільзы.

Рослы, сутулы салдат у караткаватым на ім шынялі, жмурачыся ад святла, стаяў у парозе.

— Прашу пана, — сказаў Касцянецкі ветліва, — распранайцеся і сядайце да агню.

Салдат скінуў з пляча рэчавы мяшок, шынель і падсеў да грубкі, паціраючы чырвоныя, азяблыя рукі.

— Замёрз, як сабака, — буркнуў ён, — са шпіталя ў часць іду. А на двары ноч, халадэча. Лес тут у вас, як у Сібіры, цяжка прабрацца і днём, не тое што ноччу. Вырашыў папрасіцца наначд. Можна, гаспадар?

— Начуйце. Мы ўдваіх з сынам. Месца хопіць.

— Ну і добра.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## 20 год за адным сталом

Костак Мацько недзе ў 1947 годзе прыйшоў з вёскі Новая Воля, што на Сакольшчыне, працаваць у Саколку ў ГС. Спярша быў рэферэнтам і інструктарам. Потым і людзі, і ўлады, усё больш бачачы добрую працу К. Мацько, на агульным сходзе ПЗГС выбралі яго прэзасам па справах гандлю. Доўга працаваў Кастусь Мацько на гэтай пасадзе. Вёў яе добра. І людзі, і начальнікі былі з яго задаволены. Канстанцін Мацько хутка ўступіў у рады ПАРП, дзе таксама праявіў сваю актыўнасць. Цяпер, калі галоўны прэзас ПЗГС Эдвард Надзея пайшоў на дырэктара фабрыкі „Спомаш“, Кастуся Мацько выбралі галоўным прэзасам ПЗГС у Саколцы. Ён з гонарам выконвае і гэтыя абавязкі і мае вялікі аўтарытэт у людзей. Так і прапрацаваў ён больш 20-ці год за адным сталом. Жадаем яму і далейшых поспехаў у працы.

**Т. К.**

## У Шудзялаве новая злеўня

У Шудзялава прывозяць малако з вёсак: Скупава, Слойка, Навінка, Казловы Луг і Баратыншчына. Дагэтуль адбываўся скуп малака ў цесных сенях Яна Вайткоўскага. Але вось акруговая малачарская спулдзельня ў Саколцы пабудавала новую, добра абсталяваную малачарню ў Шудзялаве. Малако прымае Марыся Вайткоўская. Ніхто не мае прэтэнзій да яе працы. На месцы санітарны кантроль, у малачарні парадак і чысціня. **Т. К.**

## Рана выйшлі ў поле

Прыйшла вясна, месяц сакавік. Гаспадары Кожына адразу пайшлі да дыспетчара сельгастуртка, каб заказаць работу ў полі. Трэба садзіць бульбу, сеяць авёс, яравую пшаніцу. Задаволены быў дыспетчар Мікалай Раманюк, што сельгасгурток ужо ў сакавіку мае работу ў полі, і выслаў першага трактарыста Пятра Пракапюка. Трактарыст наш таксама цешыўся, што ёсць ужо столькі работы. Сам ён за адзін дзень нават зрабіць усяго не паспеў. А на другі дзень ужо выехала больш нашых трактарыстаў, загадалі выйсці ў поле нават тым, што возяць малако ў Бельск. Пад вечар паз'язджаліся трактарысты на пляц сельгасгуртка і гавораць з дыспетчарам, як добра ішла работа на сакавіцкім полі. Здаюць дыспетчару карты працы — хто колькі гадзін працаваў. Аказваецца, працавалі столькі, колькі і летам працуюць. Заробак які для гуртка ў Кожыне! Дарагія гаспадары, бярыце прыклад з такога сельгасгуртка, як у Кожыне. (ют)

## Паштоўка з Белавежы

Янка Крупа працуе інструктарам ГП БГКТ — памагае мастацкім калектывам. Ён, між іншым, вядзе танцавальную групу калектыву „Белавежа“. За год працы групе ўдалося даць нямала выступленняў. Танцавальная група працуе многа і яна вельмі дысцыплінаваная. Сярод удзельнікаў сямейная атмасфера.

Душой калектыву з'яўляецца пані Аня Байко — кіраўнічка святліцы. Яна аказвае калектыву пастаянную дапамогу. Шкада, што так мала ёсць людзей з такімі арганізатарскімі здольнасцямі.

**Тэкст і фота В. Бура**



## Тэлефоны

Да рэдкасці цяпер належыць вёска на Беласточчыне, якая не мела б тэлефона. Аднак многія з іх зусім не прыдатныя. Напрыклад, са школы ў Тапалянах у Міхалова хутчэй зойдзеш пехатой, чым дазвонішся. З прыемнасцю ў тэлефоне можна выслухаць праграму радыё, а яшчэ лепш пачуеш размову розных установ. А пажаданы нумар, як за сёмым морам. Гэтакіх канцэртаў з тэлефонамі бывае многа. Другі тэлефонны апарат, які знаходзіцца ў сельскагаспадарчым гуртку ў Тапалянах, ужо некалькі месяцаў зусім не адзываецца. Дырэкцыя тапалянскай школы многа пісала да начальнікаў РУТ, бо дазваніцца туды не магла. Адказы атрымоўвала, ды па сённяшні дзень не дачакалася добрага голасу па тэлефону. Які ж голас пачуем цяпер ад начальства РУТ на гэтыя нашы скаргі?

**Мікола Краўчук, Патока**

## Шуфелька для вугалю

У месяцы снежні мінулага года жонка папрасіла мяне купіць шуфельку для вугалю. Я наведаў жалезную краму ваяводскай спажывецкай спулдзельні (ВСС) і вясковы таварны дом ГС у Гайнаўцы. Шуфелькі нідзе не знайшоў. І ў адной, і ў другой краме сказалі мне — заходзьце, пытайце, калі-небудзь будуць. І так вось я хаджу ў гэтыя крамы ўжо больш, як тры месяцы. А тым часам і канец зімы прыйшоў, зараз не трэба будзе паліць у печцы.

Нельга сказаць, каб шуфелька была таварам, які цяжка прадукаваць. Гэта толькі звычайная нядбайнасць гандлю. А які сорам, што ў павятовым горадзе, якім з'яўляецца Гайнаўка, не можна купіць простай шуфелькі. Каб прадаўшчыкі спамянутых крам самі вугаль у печ укідалі рукамі, думаю, тады і шуфелькі былі б у іх у продажы.

**Раса**

## Дзяўчына з БГКТ



Людміла Панько з'яўляецца актыўным членам БГКТ у Курашаве. Яна ахвотна прымае ўдзел у жыцці і працы сваёй арганізацыі. Пастаянны чытач „Нівы“ і беларускіх кніжак. Папулярызуе беларускае слова ў сваім асяроддзі. Пра „Ніву“ кажа, што гэта вялікі госць у іхняй хаце.

**В. Б.**

Два разы пра адну вёску

## ЗУБАВА

Зубава — гэта вёска, якая ляжыць у Бельскай гміне. Налічвае яна каля 120 гаспадарак, а жыхароў у вёсцы 450. У Зубаве вельмі многа моладзі. Многія вучацца. Частка засталася на вёсцы.

У вёсцы ёсць крама, школа, шмат тэлевізараў, аднак няма ніякага клуба ці святліцы, куды моладзь магла б прыходзіць у свабодны час. Плануецца пабудова клуба, ды пакуль што з гэтага нічога не выходзіць.

У пачатковую школу ў Зубаве ходзіць каля 80 вучняў. Ды школа ў Зубаве мае быць ліквідавана. Школьнікі будуць хадзіць вучыцца ў Кожына.

**Мікіта Забалотны**

## Вёска як вёска

З году ў год сяло наша змяняецца. На вуліцы праведзена электрычнае святло. Пабудавана новая прыгожая крама. Старыя хаты замяніліся ў светлыя дамы. У вёсцы ёсць малачарня, пункт скупкі яек, сельскагаспадарчы гурток і васьмікласная школа. Пабольшыўся лік абанентаў тэлебачання. У вёсцы іх аж 27. Дзейнічае гурток БГКТ і гурток сельскіх гаспадынь.

Наша вёска прыгажэе з дня на дзень. Думаю, што ў 2000 годзе зменіцца яна так, што самі не пазнаем.

**Яўгенія Аўсеню**к

## Мінеральныя ўгнаенні

Мочнік і вапна — вось чаго недаацэньваюць нашы гаспадары. Наша прамысловасць прадукуе цяпер многа мочніку — дасканалага азотнага ўгнаення. У мочніку каля 40 прац. чыстага азоту. Ён дасканала спрыяе добраму росту збожжа і няма ніякіх цяжкасцей з яго купляю. Не раз пішацца аб тым, што нашы глебы моцна кіслыя, і таму зямля слаба родзіць. Гаспадары ў гміне Міхалова пераканаліся ў дабрадзейным уплыве вапны на кіслыя глебы. У размове з кіраўніком гміннай сельскагаспадарчай службы Лонгінам Голякам мы даведаліся, што план навозаў па Міхалоўскай гміне на гаспадарчы год 1973/74 (да чэрвеня) раўняецца 1260 тонам. План пакупак угнаенняў выкананы дагэтуль у 64,3 прац., гэта значыць, што гаспадары купілі 806,9 тоны. У 1973/74 годзе трэба даць на палі 800 тон вапны, на складзе ёсць 340 тон, з гэтага сельгасгурткі высеялі 287 тон.

Перадавікамі ў куплі ўгнаенняў з'яўляюцца вёскі: Баршчэва — 92 працэнты, Майдан — 77 прац., Копцы — 74,3 прац. Горш купля ўгнаення ідзе ў вёсках Новая Воля — 48,4 прац., Сушча — 48,8 прац. і Масціска — 58 прац. Некаторыя гаспадары нават не ведаюць, што гэта такое кіслая глеба. Сыплюць мінеральныя ўгнаенні і дзівуюцца, чаму яны слаба памагаюць ва ўраджайнасці. Вядома аднак, што на кіслых (заквашаных) глебах і мінеральныя ўгнаенні не зробяць цуду. Кіслыя глебы трэба найперш вапнаваць. Мочніку, вапна і іншых угнаенняў дастаткова ў ГС-ах. Трэба іх купляць. З мінеральнымі ўгнаеннямі лепшыя плёны.

**Павел Гутнік**

## Як брыдка ля дарогі!

Дарагая рэдакцыя, я пішу ад імя ўсёй вёскі Кожына. Наша вёска складае скаргу на непарадкі пры дарогах. Прашу вас напісаць аб тым, як некаторыя кожынскія гаспадары не ўмеюць трымаць парадку пры дарогах. Напрыклад, дарога Кожына—Зубава. Сюды прывозілі смецце з панадворкаў, цэглу, шматкі ў мяшках — найбольш тых стыленаў, што жанчыны носяць. Усё гэта цяпер дзеці расцягваюць. З-за смецця няма нават дзе пясок браць. Ужо не раз пісалі пра гэтыя сметнікі, людзі аднак чамусьці не заўважаюць, а смецця робіцца ўсё больш. Шкада, што пра гэта не ведае наш начальнік у Бельскай гміне.

**Ваш чытач**

## Госць у Бельскім беларускім ліцэі

Бельскі беларускі ліцэй імя Б. Тарашкевіча наведаў госць з кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Прыехала да нас доктар Эльжбета Смулкова, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі. У прысутнасці дырэктара нашай школы і настаўніц беларускай мовы яна сустрэлася з вучнямі, якія пасля заканчэння ліцэя хочуць паступіць на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Прысутнічала 25 вучняў, у тым ліку чатырохасабовая дэлегацыя з трэціх класаў. Др Смулкова паведаміла нам, што ў новым школьным годзе будзе набор на стацыянарнае аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Будзе прынята 15 асоб. Без экзаменаў будуць прыняты перадавікі ў вучобе, а таксама лаўрэаты алімпіяды рускай мовы, якія былі дапушчаны да трэцяй ступені. Др Э. Смулкова расказала таксама пра інтэрнат і стыпендыі. У гэтым годзе была ўведзена новая стыпендыяльная сістэма — карысная для студэнтаў. Апрача пастаяннай стыпендыі, ёсць узнагароды для тых студэнтаў, якія атрымаюць сярэднюю па ўсіх прадметах найменш 3,6. Узнагарода будзе ад 200 да 500 зл. у месяц. Самая высокая стыпендыя, якую можна атрымаць, — 1200 зл.

Пры здаванні экзаменаў, калі хто па пісьмовай рабоце атрымае двойку, можа быць дапушчаны да вуснага, але толькі ў тым выпадку, калі будзе мала кандыдатаў. Наш госць стараўся выясніць нам усё як найлепш. У канцы сустрэчы вучаніцы нашай школы ўручылі др Эльжбеце Смулковай кветкі, падзякавалі ёй за прыезд у нашу школу і за добрую, карысную размову з намі.

**Васіль Асеннік,**
вуч. Бельскага беларускага ліцэя

## Выбары солтысаў у Азяблах

Адбываюцца выбары солтысаў і падсолтысаў у вёсках. Людзі выбіраюць тых, што будуць выступаць за іх інтарэсы перад гмінамі і клапаціцца пра вёску. Такія выбары адбыліся нядаўна ў вёсцы Азяблы, Беластоцкага павету. Солтысам зноў быў выбраны Юрка Храноўскі, які мае давер і падтрымку ў людзей. Падсолтысам быў выбраны Іван Грыко.

Падобныя выбары прайшлі ў вёсцы Ляўшы, солтысам стаў тут Вацлаў Грыко, а ў Новай Волі — Барыс Мядзведзь. Вялікая работа чакае солтыса. Ён арганізуе грамадскія чыны, дбае пра дысцыпліну ў вёсцы, прымае ўдзел у сесіях гміннай рады.

На Беласточчыне было выбрана 3.600 солтысаў, якія чатыры гады будуць выконваць свае функцыі. Жадаем усім ім поспехаў у працы.

**Павел Гутнік**

У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## У справе партызанскай мамы

**АДКАЗВАЕ:**

**Urząd Powiatowy w Bielsku Podlaskim Wydział Zdrowia i Opieki Społecznej.**

W odpowiedzi na pismo z dnia 7.III.1974 r. w sprawie Ob. Zofii Terleckiej zam. Bielsk Podlaski ul. Okrzei 75 — Wydział Zdrowia i Opieki Społecznej Urzędu Powiatowego w Bielsku Podlaskim po zbadaniu sprawy wyjaśnia:

Ob. Terlecka Zofia mieszka razem z wnuczką Walentyną Terlecką, która pracuje jako pomoc kuchenna w internacie Technikum Rachunkowości Rolnej i zarabia 1000 zł. miesięcznie. Zofia Terlecka pobiera rentę w wysokości 1000 zł. miesięcznie. Mieszkają w mieszkaniu wynajętym u Ob. Sawko Piotra przy ul. Okrzei Nr 75. Mieszkanie mieści się w budynku gospodarczym, w którym mieszkał gospodarz przed wybudowaniem budynku mieszkalnego. Mieszkanie jest jednoizbowe, duże, przepierzone na dwie części, posiada dwa okna, pomalowaną podłogę i ściany. Obecne warunki mieszkaniowe w porównaniu z poprzednimi przy ul. Hołowieskiej 15 są znacznie lepsze. Jedynym mankamentem jest fakt, że czynsz za to mieszkanie wynosi 400 zł. miesięcznie.

Ob. Terlecka nie kwalifikuje się do pomocy pieniężnej ze strony Opieki Społecznej ze względu na to, że pobiera rentę po mężu oraz posiada troje dzieci zobowiązanych do alimentacji. Jeden z synów Mikołaj Terlecki mieszka w Olsztynie, drugi Jan Terlecki we Wrocławiu, a córka Nadzieja Dub we wsi Dubiażyn. Dzieci nie pomagają matce materialnie, ani też nie interesują się nią. Dotychczas Zofia Terlecka nie zgadzała się, aby przeciwko jej dzieciom wystąpić do Sądu o alimenty. Obecnie wyraziła na to zgodę i w związku z tym Ośrodek Opiekuna Społecznego będzie mógł wszcząć postępowanie sądowe.

Niezależnie od spraw alimentacyjnych ob. Terlecka ubiega się o przydział mieszkania na terenie m. Bielska. W tej sprawie tut. Wydział wystąpił do Urzędu Miasta w Bielsku Podlaskim z wnioskiem o przydział mieszkania. Jednocześnie zainteresowano tą sprawą Punkt Opieki PCK w Bielsku Podlaskim oraz lekarza rejonowego.

**Z up. Naczelnika Powiatu**
**lek. med. Franciszek Liźniewicz**
**Kier. Wydz. Zdrowia i Opieki Społ.**




**„Раса“.** „У мяне неяк так складаецца, што найбольш бачу спраў крытычных. Несумненна, рэдакцыі не на руку такія матэрыялы, але я не люблю добрага хваліць. Лічу, што абавязак карэспандэнта — змагацца з недахопамі нашага жыцця“. Выказванне гэта даем у гэтым месцы, каб адказаць многім зацікаўленым пытаннем, як і пра што карэспандэнт павінен пісаць. Дык вось — рэдакцыі на руку крытычныя (але толькі правераныя) матэрыялы. Вашы, „Раса“, матэрыялы цэнім высока за іх крытыцызм. Але не кожны можа, а іншы не хоча быць настолькі адважным. Згаджаемся, што карэспандэнт павінен змагацца з недахопамі жыцця.

**Ірэна Кузьма.** „Матроса“ надрукуем. Ніяк не можам згадзіцца з вамі, што не было аб чым пісаць нам.

**М. Панфілюк.** Друкуем усе вашы інфармацыі. Прабачце, няясная для нас справа з інфармацыяй пра вуліцу ў канцы вёскі Карыціск. Няма яе ў нас. Просім, напішыце яшчэ раз. У справе здрадніка Булат-Балаховіча быў адказ, у справе Кавэрды — цяжэйшая рэч, пастараемся адказаць, наколькі зможам.

**Міхась Шаховіч.** Мініяцюру надрукуем.

**Дзядзька Квас.** Вітаем вас зноў у „Ніве“. Надрукуем „Пагаварылі“ і „Адказ аўтару „Я рашыў“.

**Яўгенія Манаховіч.** — Гумар пра мужа-п'яніцу не падыходзіць.

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Indeks 36911.

